


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

19 ліпеня 2002 года
№ 29 (378)
Выходзіць па пятніцах

ПАКС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Пажар у доме Тарашкевіча

МАЛАДЗЕЧНА. 14 ліпеня ў Радашкавічах згарэлі дах і перакрыцці ў сядзібе, дзе жыў беларускі мовазнаўца, пісьменнік, палітык Браніслаў Тарашкевіч.

Вядзецца следства. Яно ўстанаўлівае прычыну пажару. Вадой пашкоджана частка гістарычных дакументаў. Дачка удавы Тарашкевіча **Ірына Ніжанкоўская**, якая жыла ў сядзібе, часова пасялілася ў суседзяў.

**Мікола ЛІННІК.**

### Новыя кіраўнікі РКБА і РТМА

ВАЛОЖЫН. За апошні тыдзень змяніліся кіраўнікі раённага камбіната бытавога абслугоўвання (РКБА) і галоўны ўрач раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання (РТМА). РКБА ўзначаліла **Святлана Гапеева**. З 1984 года яна працавала галоўным інжынерам РКБА. Галоўным урачом РТМА стала **Марыя Пыжык**. Нарадзілася ў Іўі. На працу ў Валожын прыехала ў 1973 годзе. Апошнія месца работы – намеснік галоўнага ўрача РТМА па часовай непрацаздольнасці і рэабілітацыі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Васіль Браім - заслужаны артыст

ВІЛЕЙКА. Ганаровае званне Заслужанага артыста Беларусі прысвоена 15 ліпеня Указам прэзідэнта салісту Дзяржаўнага акадэмічнага хору Беларусі імя Генадзя Цітовіча **Васілю Браіму**. Творчая біяграфія аднаго з вядучых артыстаў галоўнага хору краіны пачыналася ў Вілейцы ў 1980 годзе, калі старшы нарміроўшчык «Зеніта» Васіль Браім прыйшоў пець у хор гарадскога Дома культуры. Кіраваў калектывам **Анатоль Шагаў**.

**Мікола ГАЙДУК.**

### Малы, ды ўдалы

АШМЯНЫ. Не проста так бавіў час у свайго сябрука першакласнік адной са школ горада.

П дарозе дамоў ён прыхапіў з сабой дыпламат знаёмага бацькі. У ім было паўтары тысячы долараў ЗША і залатыя вырабы. Але работнікі міліцыі злодзея затрымалі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Рэкорд не пераўзыдзены

МЯДЗЕЛ. На гэтым тыдні тэмпературы вады ў Нарачы ўжо ў 8 раніцы перавышае 22°С.

Да вечара вада праграваецца да 26°С. Але гэта не найвышэйшы паказчык. Улетку 1994 года тэмпература вады дасягала да 28°С.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Па дзесяць тысяч на брата

АСТРАВЕЦ. Такой сумы ў амерыканскіх доларах не далічыліся два расіяніны, якія ехалі ў цягніку "Масква-Калінінград". У купэ яны схавалі амаль 20 тысяч долараў, якія не ўказалі ў мытнай дэкларацыі. Лёс грошай і жыхароў Расіі вырашыць суд.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### На бяседу ў Няседы

СМАРГОНЬ. 14 ліпеня вёска Няседы Вішнеўскага сельсавета адзначыла сваё свята.

Гулялі з ранку да ночы. Прызамі адзначылі 5 дамоў узорнай культуры, лепшых пчаляроў, садаводаў і агароднікаў. Вяскоўцам наладзілі канцэрт.

**Ірына РАБУШКА.**



### Надвор'е на выходныя

**Субота, 20 ліпеня**

| Мінск | Вільня |
| --- | --- |
| 16°С (уначы) | 14°С (уначы) |
| 29°С (удзень) | 26°С (удзень) |

**Нядзеля, 21 ліпеня**

| Мінск | Вільня |
| --- | --- |
| 14°С (уначы) | 13°С (уначы) |
| 27°С (удзень) | 25°С (удзень) |

# Жыве фестываль "Адна зямля"!

**АСТРАВЕЦ. На рэгіянальным фестывалі-конкурсе выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля", што прайшоў 14 ліпеня ў Рымдзюнах, некаторыя з'явы здараліся ўпершыню.**

Упершыню фестываль праходзіў на закрытай пляцоўцы, пад дахам Рымдзюнскага Дома культуры. Упершыню ў адной узроставай катэгорыі журы не вызначыла пераможцу. Затое ў іншай такіх аказалася адразу два. Першы раз у гісторыі фестываляў удзельніцу выключылі з ліку прэтэндэнтаў на прызы пасля пратэсту з боку кіраўнікоў раённых аддзелаў культуры.

На фестываль рымдзюнцы прыйшлі. Для гэтай вёскі мінулая нядзеля стала сапраўды святочнай. Калі яшчэ вяскоўцы ўбачаць "жывы" якасны канцэрт, ды яшчэ і за бясплатна! Зала пастаянна была перапоўнена. Праходы і другі паверх таксама не пуставалі. Гледачы падтрымлівалі ўсіх выканаўцаў, нягледзячы на іх раённую прыналежнасць.

Фестываль "Адна зямля" будзе жыць! Ідэя, якая тры гады таму нарадзілася на маладзечанскай зямлі, даказала сваю жыццяздольнасць.

Фестываль дазваляе прагледзець лепшых самадзейных артыстаў у рэгіёне, і магчымасць параўнаць сябе з суседнімі раёнамі. І пры адносна невялікіх выдатках, бо прызы куплялі ўсе раённыя аддзелы культуры.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Працяг тэмы на 2-й стар.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Астраўчанка Настасся Кузьміцкая на фестывалі "Адна зямля" заняла другое месца ў сярэдняй узроставай групе.**

# Дзе купацца, каб на хваробу не нарвацца?

**Напэўна, заядлыя купальшчыкі палезуць у любы вадаём. А тыя, хто адной-чы «злавіў» якую-небудзь заразу ў вадзе, аднолькава адкажуць на маё пытанне: у ванне, сваёй, роднай.**

Але ж забаронены плод салодкі. І толькі выкуліўшыся з электрычкі ці машыны, усе бягуць да вады. Праз імгненне ногі ў вадзе, а рукі абціраюць твар. Пасля гэтага...

Кожны вадаём лічыцца небяспечным для жыцця. Бо ў ім можна патануць. Кожны вадаём можа быць небяспечным і для здароўя.

МЯДЗЕЛ. Нарачанская група азёр парамжоная на так званы "сверб купальшчыка". Таму загадчык санітарна-гігіенічнага аддзела раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (РЦГіЭ) **Мікалай Стралец** раіць:

— Пасля купання трэба абавязкова прыняць душ і абцерціся жорсткім ручніком. Можна выкарыстоўваць тлустыя мазі ці крэмы.

АСТРАВЕЦ. Тут знаходзяцца два вадаёмы, якія прыстасаваныя для купання. На іх ёсць 3 пляжы. Чысціню пацвярджае штотыднёвы кантроль за вадой.

Менавіта па такім графіку, як гаворыць галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Астравецкага раёна **Ганна Пашук**, сочаць за вадой у сувязі з гарачым надвор'ем супрацоўнікі РЦГіЭ.

СМАРГОНЬ. Смаргонцам купацца няма дзе. Гэта пацвердзіў і растлумачыў загадчык санітарнага аддзела РЦГіЭ **Леанід Вайніла**:

— Узбуджальнікаў розных інфекцыйных захворванняў знайшлі ў двух вадаёмах, якія знаходзяцца ў межах горада. У 25 вадаёмах (!) за межамі райцэнтра купацца ніхто і не дазваляў. Да таго ж у непрыдатным стане знаходзіцца іх дно. Трэба спачатку, каб вадалазы ачысцілі яго ад шкла. А іх у нас няма.

ВІЛЕЙКА. Яна знаходзіцца ў 40 кіламетрах ад Смаргоні. Напэўна, на 6 вілейскіх пляжаў і прыязджаюць смаргонцы. Ці адпавядаюць санітарным нормам вілейскія купальні? Адказвае ўрач па камунальнай гігіене РЦГіЭ **Ірына Гардзей**:

— Пакуль што ўсе ў норме.

МАЛАДЗЕЧНА. Усе рэкі ў раёне адносяцца да катэгорыі малых рэк з нізкай здольнасцю да самаачышчэння. Вельмі забруджваюцца рэкі лівенямі. Бо яны змываюць з тэрыторый населеных пунктаў вялікую колькасць бруду. У першую чаргу гэта тычыцца Ушы. Яна працякае цераз 16 населеных пунктаў.

Загадчык аддзела камунальнай гігіены РЦГіЭ **Мікалай Малярэвіч** зазначыў, што шмат год на Ушы не праводзілі прафілактычных мерапрыемстваў па ачыстцы вады. Таму купацца тут забаронена. Самая чыстая вада ў "лясных" рэках (Удранка, Рыбчанка, Заходняя Бярэзіна).

АШМЯНЫ. Дазволена купацца ў гарадскім вадаёме. Людзі ж купаюцца і па ўсёй Ашмяншчыне, і яшчэ ў двух вадаёмах. Афіцыйнага дазволу на купанне не існуе. Бо няма прыстасаваных месц для купання.

Гэта пацвердзіў галоўны ўрач РЦГіЭ **Сяргей Маранік**:

— Людзям нашым не загадаеш. Дзе хочуць, там і адпачываюць. Да прыкладу, летась купанне забаранілі.

ВАЛОЖЫН. Забаронена купацца на трох участках Заходняй Бярэзіны і на трох участках Ісачы. Па словах памочніка ўрача-гігіеніста РЦГіЭ **Галіны Шалакавай**, на гэтых участках паказчык кішэчнай палачкі перавышаны ў 4 разы. Паўсюдна пастаўлены шыльдачкі аб забароне. Г. Шалакава лічыць, што вялікай рызыкі захварэць няма. Але перасцерагчыся трэба. Перавышэнне нормы адбылося з-за дажджоў і спякоты.

Завочна пакупаўшыся ў водах нашага рэгіёна, з'явілася альтэрнатыва ванне. Вілейскі раён самы чысты. Пакуль...

**Ірына РАБУШКА.**

■ ФЕСТЫВАЛІ

# Дзякуй, Рымдзюны! Прывітанне, Смаргонь!

**АСТРАВЕЦ. Упершыню Гран-пры фестывалю паехаў ў Вілейку. І журы, і гледачы аднадушна прызналі лепшым Казіміра Талстыку. Апладысменты пасля яго песень "Край верасовы" і "Зачараваная ноч" не змаўкалі некалькі хвілін.**

Але гэта было ў самым канцы. А спачатку –

## Чакалі ашмянцаў

Заставаўся час да пачатку фестывалю, а ашмянскай дэлегацыі яшчэ не было. Пайшоў жарт, што астравецкія суседзі на фестываль вырашылі праз Вільню дабірацца. Прычыну спазнення патлумачыла загадчыца аддзела культуры Ашмянскага райвыканкома **Галіна Балінская**. Ашмянцы вырашылі паехаць незнаёмым, але больш кароткім шляхам. У выніку аб'ездзілі амаль увесь Астравецкі раён. Але да пачатку жараб'ёўкі паспелі.

Па ўмовах фестывалю, канкурсанты выконвалі дзве песні. Хаця б адна павінна быць беларускага аўтара.

## Першага месца не прысудзілі

Больш за ўсё нездахопаў і заўваг у журы выклікала менавіта выступленне самых малодшых ўдзельнікаў.

Старшыня журы – заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь **Галіна Качалава**:

— Пасля фестывалю мы сабралі кіраўнікоў раённых дэлегацый і выказалі ім свае пажаданні для таго, каб на наступных конкурсах некаторыя недахопы выкараніць.

Мы гаварылі аб форме адзення, як трэба сябе паднесці, лепш падабраць рэпертуар. Каб выступленне было цікавейшым. Бывае, што адна песня нармальна зроблена і гучыць няблага, а другая – прайграе. Нельга рабіць горшай адну песню. Трэба, каб адна песня гучала добра, а другая – яшчэ лепш.

Яшчэ пытанні – запіс фанаграм, знешні выгляд. Усё гэта мае значэнне для комплекснага эстраднага выступлення.

Члены журы выбралі тройку прэтэндэнтаў на перамогу ў малодшай групе і пачалі размяркоўваць прызавыя месцы паміж імі. Але ў пакой увайшла загадчыца аддзела культуры Астравецкага райвыканкома **Данута Чарнушэвіч** і сказала, што кіраўнікі раённых дэлегацый выносяць пратэст. Удзельніца з Маладзечанскага раёна **Вольга Ільіч** не адпавядае ўмовам правядзення фестывалю. Дзяўчыне яшчэ не споўнілася 15 гадоў, і яна не мела права выступаць у конкурсе.

Да гэтай заявы менавіта Вольга і **Тацццяна Новік** з Вілейкі былі асноўнымі кандыдатамі на перамогу ў гэтай групе. Члены журы вырашылі не адступаць ад палажэння, і Вольга Ільіч засталася па-за конкурсам. З Рымдзюнаў яна паехала не з пустымі рукамі:



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Уладальнік Гран-пры фестывалю "Адна зямля" віляйчанін Казімір Талстыка.**

Вольга атрымала ад "Рэгіянальнай газеты" французскі прас як творчая надзея фестывалю. У будучым годзе ёй споўніцца 15, і яна зможа прэтэндаваць на прызы ў наступным фестывалі. Але без слёз на ад'ездзе не абышлося – Вольга ж не вінаватая, што яе пазбавілі перамогі ўжо сёлета. А журы на будучае параіла кіраўніцтвам аддзелаў культуры ўважлівей чытаць умовы конкурсу.

## Што першасна?

Справа пайшла весялей. Члены журы адзначылі, што ўдзельнікі гэтай групы выступалі больш прафесійна, менш прэтэнзій было да рэпертуару і адзення. Узрушыла публіку выступленне **Насці Кузьміцкай** з Астравеччыны – вельмі прывабнай дзяўчыны ў прыгожай белай сукенцы. Хаця члены журы адзначылі, што па вакальных дадзеных лепшая ў гэтай групе Алеся Ушакова з Маладзечна.

**Сяргей Яцына** з Мядзельшчыны дзень фестывалю запомніць надоўга. Назаўтра яго прызвалі ў армію. Журы пры падвядзенні вынікаў хваявала пытанне, што першасна – выгляд ці вакал. Да таго ж сярод членаў журы аказалася адна зацікаўленая асоба. **Алеся Ушакова** вучылася ў старшыні журы. Галіна Качалава адразу сказала, што выступленне сваёй вучаніцы яна каменціраваць не будзе. І сваёй думкі пры абмеркаванні яна не выказала. Спрэчку, хто першы, а хто другі, журы вырашыла толькі пасля выступлення старэйшай групы.

## На сцэну выйшлі мужчыны

У сярэдняй і малодшай групах сярод двух дзесяткаў удзельнікаў было тры хлопцы. А ўжо ў старэйшай групе надвор'е рабілі мужчыны. Усе былі як на падбор. А галасістыя! Жаночае прадстаўніцтва ў журы (а з шасці чалавек быў толькі адзін мужчына) захвалявалася. Усё ж такі мужчына, які добра спявае, звычайна хутчэй знаходзіць шлях да жаночага сэрца — шэсць з сямі выканаўцаў-мужчын ў гэтай групе атрымалі прызы.

Пасля ўзнагароджання шчаслівы ўладальнік Гран-пры Казімір Талстыка, які толькі што атрымаў тэлевізар, дзяліўся сваімі ўражаннямі:

— Я толькі літаральна ў апошнія хвіліны даведаўся, што еду на фестываль. Чуў, што ў раёне было шмат кандыдатаў на паездку.

**— Рэпертуар выбіралі доўга?**

— Доўга. Хацелася спец тое, што можа залегчы ў душу гледачам.

**— Чакалі, што станеце пераможцам?**

— Так. Разлічваў на першае-другое месца ў групе. Пра тое, што атрымаю Гран-пры, не думаў.

**— Колькі ў вас стала дома тэлевізараў?**

— Два. Гэты пастаўлю хутчэй за ўсё ў спальні.

Пяты фестываль-конкурс "Адна зямля" пройдзе наступным летам у Смаргоні.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Пераможцы чацвертага фестывалю "Адна зямля"

**Гран-пры – Казімір Талстыка (Вілейскі раён).**

**Малодшая група (15-18 гадоў)**

1.Не прысудзілі.
2.Тацццяна Новік (Вілейскі раён).
3.Кірыл Яскевіч (Валожынскі раён).

**Сярэдняя група (19-23 гады)**

1.Алеся Ушакова (Маладзечанскі раён).
2.Настасся Кузьміцкая (Астравецкі раён).
3.Алеся Супрановіч (Вілейскі раён).

**Старэйшая група (24-30 год)**

1.Іван Валадзько (Ашмянскі раён).
Сяргей Сяўко (Астравецкі раён).
2.Віктар Цыркуновіч (Смаргонскі раён).
3.Віталь Капцёнак (Маладзечанскі раён).

**Спецыяльныя прызы**

**Прыз глядацкіх сімпатый**
Сяргей Сяўко (Астравецкі раён).

**Прыз "Творчая надзея"**
Вольга Ільіч (Маладзечанскі раён).

**Прыз "Дэбют фестывалю"**
Алег Калеснікаў (Мядзельскі раён).

■ БІБЛІЯТЭКА

## Зарабілі на 135 кніг

**ВАЛОЖЫН. 135 экземпляраў новых кніг павышанага попыту набыла раённая бібліятэка.**

Сродкі на гэта пайшлі з камерцыйнага кніжнага фонду. За суткі карыстання дэфіцытнымі кнігамі бібліятэка брала па 200 рублёў. За першае паўгоддзе 152 чытачы прачыталі 592 кнігі з камерцыйнага фонду. Бібліятэка за гэты тэрмін зарабіла 150 тысяч рублёў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Украла тэлевізар

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіраўнік адной з маладзечанскіх устаноў з месца сваёй работы выкрала каляровы тэлевізар.**

У мінулую пятніцу ўзбуджаная крымінальная справа па факце злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Маладзечанскага ГРАУС знайшлі гэты тэлевізар дома ў гэтага кіраўніка.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Грошы на рамонт

**ВАЛОЖЫН. Тры тысячы еўра выдаткаваў Валожынскаму раённаму камітэту таварыства "Чырвонага крыжа" "Хрысціянскі фонд маладых людзей з нямецкага горада Оберхаўзена.**

Гэтыя грошы прызначаныя на рамонт і замену сантэхнічнага абсталявання ў памяшканні "Чырвонага крыжа".

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ЛЕТА

## Хрысціянскі летнік на Нарачы

**МЯДЗЕЛ. Міжнародны хрысціянскі працоўны летнік размясціўся ў Занарачы.**

Прыехала сюды больш за 150 чалавек з 8 краін Еўропы. Яны занятыя на будоўлі новай царквы, а таксама чысціць возера.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МЕДЫЦЫНА

## Абследавалі на радыяцыю

**ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні ў Івянецкім дзіцячым доме-інтэрнаце пабывалі супрацоўнікі інстытута радыяцыйнай бяспекі разам з дырэктарам Віктарам Несцярэнкам.**

Яны абследавалі выхаванцаў інтэрната на наяўнасць радыяцыі ў арганізме. І пакінулі дзецям харчовыя дабаўкі, якія павінны вывесці радыяцыю. Чарговае абследаванне медыкі правядуць праз месяц.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ВЫСТАЎКІ

## Васковыя фігуры ў руху

**МАЛАДЗЕЧНА. З 12 па 27 ліпеня ў горадзе знаходзіцца калекцыя васковых фігур "Лукамор'е" з Масквы.**

Калекцыю стварылі ў 1999 годзе. Яе прымеркавалі да 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна. Адметнасць калекцыі ў тым, што ўсе персанажы могуць рабіць рухі.

Беларусь стала першай замежнай краінай, куды прыехала "Лукамор'е". У далейшых планах – Калінінград, Вільня, Клайпеда і буйныя беларускія гарады.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Вучоны кот з калекцыі васковых фігур "Лукамор'е".**

■ ІНТЭРНЕТ

## Не хапае зносін па інтарэсах

**МАЛАДЗЕЧНА. На афіцыйным сайце горада можна знайсці шмат сэрвісаў: навіны, пошта, чат, карта горада.**

Ёсць і форум, дзе наведвальнікі могуць далучыцца да абмеркавання пэўнай тэмы або прапанаваць сваю. У адрозненне ад чата, які нагадвае тэлефонную размову, форум можна параўнаць з ліставаннем. У форуме можна абмеркаваць любую грамадскую з'яву, можна вырашаць камерцыйныя пытанні, можна проста пагаварыць "за жизнь".

Паводле падлікаў, маладзечанцаў турбуе стан гарадскіх дарог і праца грамадскага транспарту (13 наведванняў). Але больш за ўсё людзям прости не хапае зносін: да тэмы "Давайте общаться" звярталіся 55 разоў, да тэм "Хакеры" і "Рамонт радыёапаратуры", якія можна лічыць зносінамі па інтарэсах, адпаведна 24 і 14 разоў. Раней людзі запісваліся ў клубы і гурткі. Сёння гэту праблему вырашае інтэрнэт.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ЖЫЦЦЁ

# Наш адрас - камунальная краіна

**МАЛАДЗЕЧНА. З 28 чэрвеня ў чарговы раз павышаны цэны на некаторыя віды камунальных паслуг.**

Чыноўнікі ад Міністэрства эканомікі тлумачаць гэта неабходнасцю звесці да мінімуму выдаткі дзяржавы на тэхнічнае абслугоўванне жылля, вываз цвёрдых бытавых адходаў, водазабеспячэнне. А напрыканцы гучыць знаёмая "песня": разам з тым новыя тарыфы не пакрыюць затраты на камунальныя паслугі для насельніцтва. Маўляў, трэба чакаць новых падвышэнняў.

Чакаць, дык чакаць. Але адпаведна і паляпшэння якасці работы камунальнай ды іншых службаў. Пра гэта чамусьці ні ў адной пастанове не згадвацца, быццам апошнія ў сваёй дзейнасці дасягнулі вяршынь прафесіяналізму, межаў дасканаласці і максімуму аператыўнасці. Далёка не! Колькі ўжо год абіваю парог роднага ЖРЭУ, каб ухілілі брак будаўнікоў (праекціроўшчыкаў дома? мантажнікаў-сантэхнікаў?), – усё дарма.

З-за сваёй ненастойлівасці, а можа, сціпласці, пакуль яшчэ не пачаў страчыць скаргі ў высокія інстанцыі. Ды, калі па праўдзе, шкадую здароўе начальніка ЖРЭУ, нервы яго падначаленых – жанчын ветлівых і мужчын спагадлівых. Хаця, калі разабрацца, за камунальныя паслугі плачу спраўна, на ўтрыманне адміністрацыі і тэхперсаналу – таксама. Нават на спецадзенне апошнім узносы раблю. А можа, таму не пішу, што мала веру ў эфектыўнасць зваротаў у ГВУП "Камунальнік". Сумны вопыт іншых вымушае да такой высновы.

Да прыкладу, паслалі туды слёзную просьбу аб дапамозе жыльцы дома 6 "Б", што па вуліцы Б.Хмяльніцкага. А просяць яны засыпаць лужыну ля пад'езда, каб вада падвал не затапляла, ды ўпарадкаваць рух аўтамабіляў праз двор, як прыватных, так і "смеццявозак" таго ж "Камунальніка" – ні пешаходных дарожак, ні зялёных зон для іх не існуе.

— Наш дом знаходзіцца ў нізіне, — распавядае Таццяна Анісава, — і ўся вада сцякае да пад'езда. Да таго ж машыны разбілі дарогу, такім, як я, пажылым, інвалідам, у хуткім часе будзе не прайсці. Прасілі загарадку паставіць – матэрыялаў, кажуць, няма, знакі, якія б рух забаранялі, устанавіць альбо дарогу падняць – таксама не атрымліваецца. А дом паступова пачынае садзіцца, трэскаюцца сцены. Атрымліваецца, чакаем якой-небудзь бяды...

Да бяды, хочацца верыць, не дойдзе, а кіраўніцтва ЖРЭУ-2, на тэрыторыі адказнасці якога знаходзіцца згаданы дом, навядзе парадак. Тым больш, што ў хуткім часе ў горадзе плануецца правесці выязную калегію Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і, не дай Бог, злашчасная лужына трапіць пад ногі якому-небудзь сталічнаму начальніку. Аб адным толькі застаецца шкадаваць – падобныя калегіі ў горадзе праходзяць не кожны дзень.

**Іван МЁДАЎ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Жыхарка дома 6б па вуліцы Хмяльніцкага Таццяна Анісава: для інваліда і лужына нібы мора.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 11 ліпеня | 18 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1812,00 руб. | **1816,00** руб. |
| Еўра | 1803,39 руб. | **1834,61** руб. |
| Злоты | 432,56 руб. | **432,56** руб. |
| Літ | 522,23 руб. | **522,23** руб. |
| Расійскі рубель | 57,44 руб. | **57,44** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1840 руб. | **1830-1850** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) | |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | | **1900-11900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | | **3000-4700** |
| **Селядзец**, 1 кг | | **2300** |
| **Рыс**, 1 кг | 700-950 | **700-920** |
| **Грэчка**, 1 кг | 560-590 | **550-600** |
| **Цукар**, 1 кг | 775 | **775** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 780-880 | **880** |
| **Алей**, 1 л | 1400-2000 | **1400-2050** |
| **Маянэз**, 200 г | 370-400 | **380** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 550-580 | **600** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 1000-1100 | **900-1100** |
| **Капуста**, 1 кг | 450 | **400-450** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1800-1900 | **1850-1900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1450-1500 | **1500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 350-400 | **300-380** |
| **Памідоры**, 1 кг | 1350-1650 | **1200-1300** |
| **Кавуны**, 1 кг | 1600 | **650-850** |
| **Морква**, 1 кг | | **650-850** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| **Смятана**, 1 л | 1800-2000 | **1800** |
| **Масла**, 1 кг | 3600 | **4000** |
| **Тварог**, 1 кг | 1200-1500 | **1200-1800** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1300-1400 | **1300** |
| **Бульба маладая**, 1 вядро | 3000-7000 | **4000-4200** |
| **Чарніцы**, 5-літровае вядро | 4000-4500 | **4500** |
| **Чорныя парэчкі**, 5-літр. вядро | 3000-4000 | **4500-5000** |
| **Чырвоныя парэчкі**, 5-літр. вядро | 2000 | **1500** |
| **Маліны**, 5-літр. вядро | 6000 | **6500-7000** |
| **Вішня**, 5-л. вядро | | |

■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Гандляроў папярэдзілі

**МАЛАДЗЕЧНА. З 12 па 17 ліпеня супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (АБЭЗ), патрульна-паставой службы і ўчастковыя інспектары міліцыі зрабілі тры рэйды на міні-рынак па вуліцы Скарыны. Гандляроў папярэдзілі. Склалі два пратаколы.**

Матэрыял "Ешце на здароўе", які змешчаны ў мінулым нумары "РГ", выклікаў водгукі з боку пакупнікоў, гандляроў і міліцыі. У ім гаварылася пра продаж грыбоў і ягад на міні-рынку, што па вуліцы Скарыны. Продаж дароў прыроды тут забаронены, таму што міні-рынак да гэтага не прыстасаваны.

Пакупнікі не задаволены, што ў такім вялікім мікраранёне няма дзе прадаць і набыць дары лесу. Вельмі зручна, калі ідзеш з работы вечарам, купіць усё неабходнае.

Адгукнуўся на матэрыял і намеснік начальніка аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ГРАУС **Іван Апанасевіч**.

— У першую чаргу гэта залежыць ад цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. У іх паўнамоцтваў больш: дазваляць ці забараняць гандаль, адпавядае ён санітарным нормам ці не.

З 1 чэрвеня в.а. начальніка міліцыі **Віктар Івашанка** патрабуе штодзённыя справаздачы па стану антысанітарыі ў горадзе, у тым ліку і ва неўстаноўленых месцах гандлю. За чэрвень работнікі міліцыі склалі 15 пратаколаў.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ГАНДАЛЬ

# Райскага жыцця не будзе

**МАЛАДЗЕЧНА. У райспажыўтаварыства райскага жыцця не будзе. Сур'ёзнай крытыцы была падвергнутая работа аблспажыўсаюза і Маладзечанскага райспажыўтаварыства на выязным пасяджэнні Мінаблвыканкома.**

З чым, да прыкладу, у мяне, простага пакупніка, асацыіруецца спажывецкая кааперацыя? Найперш з паевымі кніжкамі бацькі ды маці, заляпленымі членскімі маркамі (з гэтага вынікае, што бацькі, у прынцыпе, павінныя мець сваю долю ў маёмасці галіны); з вострадэфіцытнымі ў свой час таварамі – дыванамі, відэамагнітафонамі, аўталаўкамі ў аддаленых паселішчах, хатамі-магазінамі для вяскоўцаў...

Але гэта верхні, так бы мовіць, бачны слой, пад якім хаваюцца іншыя пласты і напластаванні. Акурат іх і паспрабавалі ўскрыць прадстаўнікі камітэта эканамічнага кантролю Мінскага аблвыканкома, аб чым і склалі адпаведную даведку.

Да яе, агучанай і пракаменціраванай на пасяджэнні аблвыканкома яго старшынёй **Мікалаем Дамашкевічам**, мы яшчэ вернемся. А пакуль уласнае меркаванне. Маладзечанскаму райспажыўтаварыству дасталося "на арэхі" ў нейкім сэнсе выпадкова – яго закранула хваля, скіраваная на вышэйстаячую, абласную арганізацыю. Нездарма Мікалай Дамашкевіч без усялякіх дыпламатычных эківокаў заявіў, што ён не задаволены работай абласной спажывецкай кааперацыі і яе кіраўніка **Кацярыны Пратасевіч**. І пачаў з... марожанага. За першае паўгоддзе яго рэалізавана гораду Мінску ўсяго 200 кг. Харчовых тавараў за гэты ж перыяд жыхарам вобласці гандлёвымі арганізацыямі аблспажыўсаюза прададзена на 578 руб. на чалавека. І гэта пры тым, што ў самой сістэме працуе 29.000 работнікаў. "Чым вы там займаецеся?" – пытаўся кіраўнік вобласці. У грамах выражаецца рэалізацыя спажывецкай кааперацыяй насельніцтву хлеба (72), кандытарскіх вырабаў (8), кілбас (9), паўфабрыкатаў (2). Адпаведныя структуры аблспажыўсаюза ўступаюць у спрытнасці камерсантам – нарыхтоўшчыкам сельгаспрадукцыі. Усё гэта разам не спрыяе развіццю эканомікі не толькі самой галіны, але і вобласці ў цэлым, – падсумаваў Мікалай Дамашкевіч.

Адразу дзесяць спецыялістаў правяралі ў першых чыслах ліпеня фінансава-гаспадарчую дзейнасць Маладзечанскага райспажыўтаварыства і прадпрыемстваў гандлю. На маю думку, ці то "капалі" неглыбока, ці то сапраўды мясцовыя кааператары за апошнія два гады зрабілі значны крок наперад – з апошняга месца ў вобласці падняліся ў першую "пяцёрку". Хаця, як і ўся галіна, працуюць са стратамі. Так, страты ад рознічнага ганлю за пяць месяцаў склалі больш за 38 млн. руб., крэдыторская запазычанасць перавысіла 1 млрд. руб. Асабліва абурыў кіраўніка вобласці той факт, што ў раён завозіцца прадукцыя з іншых абласцей рэспублікі (марожанае з Гродна і Гомеля, лікёра-гарэлачныя вырабы з Віцебшчыны) і нават з іншых краін (пельмені, да прыкладу, з Санкт-Пецярбурга), у той час як прадукцыя Вілейскага гармалзавода, Маліноўшчынскага "Крышталю-II", сталічных мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў рэдка з'яўляецца ў крамах райспажыўтаварыства. Хаця зноў жа, з прычыны значнай запазычанасці кааператараў пастаўшчыкам. Але пад якія тады гарантыі адпускаюць прадукцыю пастаўшчыкі з-за межаў вобласці і нават рэспублікі? Старшыня аблвыканкома не выключыў асабістай зацікаўленасці кіраўнікоў гандлю ў падобным становішчы. На выпраўленне сітуацыі праўленню аблспажыўсаюза адведзена два тыдні.

Дарэчы, як і па рабоце калгаснага рынку, які паступова ператвараецца, па меркаванню правяраючых, у в'етнамскі альбо сярэднеазіяцкі базар. У той час як мясцовыя сяляне, дачнікі і агароднікі вымушаны рэалізоўваць сваю прадукцыю за межамі рынку альбо прама з зямлі на яго тэрыторыі. Мікалай Дамашкевіч запатрабаваў ад усіх органаў і структур абласнога і раённага падпарадкавання на працягу двух тыдняў навесці на рынку парадак, а старшыні раённага выканаўчага камітэта **Сямёну Касабуцкаму** санкцыяніраваў дазвол на любыя вычарпальныя меры, у тым ліку і кадравыя перамены – толькі б пераламаць сітуацыю, прымусіць кааператараў працаваць цывілізавана...

Не выпадкова ў канцы папярэдняга сказа паставіў шматкроп'е: аналіз дзейнасці Маладзечанскага райспажыўтаварыства будзе прадоўжаны.

**Іван МЁДАЎ.**

■ КОНКУРСЫ

## Другое месца ў вобласці

ВАЛОЖЫН. Другое месца ў вобласці заняў калектыў Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната ў аглядзе-конкурсе на лепшую пастаноўку работы па добраўпарадкаванню і санітарнаму стану тэрыторый.

Такі вынік сярод падведамасных устаноў падвёў Мінскі абласны камітэт па працы і сацыяльнай абароне. Івянчане прапусцілі толькі калег з Чэрвеня. Акрамя дыплома за другое месца, калектыву ўручылі магнітолу, тостэр і кухонны камбайн.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ФУТБОЛ

# Турнір у Беразінскім: аднаўленне пасля перапынку

**Штогадовы турнір па міні-футболу пасля гадовага перапынку зноў падарыў жыхарам і гасцям пасёлка святочныя дні.**

Як і ў 2000 годзе, ўдзельнічалі ў спаборніцтвах толькі свае каманды: ВРУП "Беразінскае", "Рамас" (Мінск), зборная Беразінскага, "Усяж", Гарадзілаўская СШ, трубапракатны завод (Маладзечна), ПТВ-42 (Беразінскае), калгасы "Кастрычнік-Гарадзілава".

## Папярэдні этап

Каманды раздзялілі на дзве падгрупы. Дзве лепшыя выходзілі ў паўфіналы, астатнія калектывы спрачаліся за 5-8 месцы. "Рамас" выйшаў на другую каманду групы "Б" ВРУП "Беразінскае", яшчэ адну паўфінальную пару склалі ПТВ-42 – зборная Беразінскага.

## Матч за 5 месца

Госці з "Усяжа" сталі толькі пятымі, хаця па гульні выглядалі лепш. Недахоп вопыту зрабіў сваю справу, і "Усяж" не выйшаў з групы. Маладзечанскі трубапракатны завод стаў шостым. За Гарадзілаўскую СШ выступалі 14-гадовыя падлеткі, і чэмпіён 2000 года падзяліў апошнія месцы з калгасамі "Кастрычнік-Гарадзілава".

## Матч за 3 месца

У паўфіналах не пашанцавала ПТВэшнікам і торфабрыкетчыкам. Першыя былі "бітыя" будучымі чэмпіёнамі, а гаспадары з мінімальным лікам 1:2 уступілі "Рамасу", дзе на працягу ўсяго турніру саліраваў Генадзь Бахур, вядомы аматарам футбола па выступленнях за маладзечанскі "Металург" у чэмпіянаце Беларусі па міні-футболу. ВРУП "Беразінскае" стала трэцім.

## Фінал

**Генадзь Бахур** супраць **Андрэя Лявончыка**. Прафесіянал міні-футбола супраць прафесіянала вялікага футбола. Варатар супраць нападаючага. У атакуючага боку заўсёды ёсць перавага – зборная Беразінскага перамагае з лікам 3:1, Лявончык забівае два галы. Пераходны кубак яшчэ на год застаецца дома.

## Каментарыі

Дырэктар ВРУП "Беразінскае" **Станіслаў Кулеш**:

— На такое мерапрыемства не шкада ніякіх грошай. Некаторыя кажуць, што прафінансаваць такі турнір вельмі дорага, але ад нядбайнасці мы губляем больш. У мінулым годзе арганізатары недзе ўпусцілі, недзе не дамовіліся – і турніру не было. Жыццё паказвае, што такой дружнай кампаніяй трэба збірацца.

**— Пасля 9 тураў у чэмпіянаце Мінскай вобласці ФК "Беразінскае" ачкоў не мае. Вядома, там гуляюць маладзечанцы. На турніры мы бачылі чатыры міні-футбольныя каманды, за якія выступалі толькі беразінцы. Здаецца, можна скласці адну для вялікага футбола.**

— Правальнае выступленне ў першым крузе я бяру пад сваю адказнасць (у мінулым сезоне ФК "Беразінскае" заняў другое месца – рэд.). Другая справа, што не так проста аб'яднаць працоўных людзей, каб кожную суботу яны выходзілі на поле.

**— Якім вы бачыце турнір у наступным годзе?**

— Мы заўсёды згодны з правядзеннем гэтага свята. Па-ранейшаму зробім стаўку на свае каманды, магчыма, кагосьці запросім з боку.

Галоўны суддзя **Сяргей Розум**:

— У чарговы раз надвор'е спрыяе правядзенню турніру. Прыемна, што каманды добра экіпіраваны, дэманструюць прыгожы футбол. Ёсць інтрыга, ёсць фаварыты і аўтсайдэры. Судзейская брыгада ў складзе Уладзіміра Асіпенкі, Яўгена Цярэшчанкі, Ігара Крука і Віталя Казяка працуе проста выдатна. Застаецца сказаць дзякуй усім, хто арганізаваў спаборніцтвы.

Інструктар-метадыст па фізічнай культуры ВРУП "Беразінскае" **Юрый Садоўскі**:

— Свята атрымалася – гэта галоўнае. На практыцы складана было арганізаваць, каб усе каманды былі з формай, своечасова выходзілі на матчы. Відовішчнасць турніру не ад рэкламных шыльдаў, а ад той гульні, якую павінны паказваць футбалісты.



Фота Мікалая Мацюка.

**Варатар «Рамаса» Генадзь Бахур стаў лепшым варатарам на міні-футбольным турніры ў Беразінскім**

Варатар "Рамаса" **Генадзь Бахур** (бронзавы прызёр чэмпіянату Беларусі па міні-футболу 2000/2001 гадоў у складзе маладзечанскага "Металурга"):

— Першы раз на турніры, і мне падабаецца. Прыемна тут знаходзіцца, дабрадушныя балельшчыкі, якія разбіраюцца ў футболе і падтрымліваюць апладысментамі кожную каманду.

Я ўжо некалькі месяцаў працую на "Рамасе", мяне папрасілі дапамагчы нашаму калектыву дастойна выступіць на гэтых спаборніцтвах. Мы выйшлі ў фінал, але вышэй галавы не скокнеш.

**Мікалай МАЦЮК.**

## Лепшыя

**Па выніках турніру арганізатары адзначылі наступных футбалістаў:**

**лепшы гулец** Андрэй Лявончык ("Беразінскае") – прыз "Рэгіянальнай газеты";

**лепшы варатар** Генадзь Бахур ("Рамас");

**лепшы абаронца** Аляксандр Філіпеня ("Усяж");

**лепшы нападаючы** Дзмітрый Макарэня ("Усяж");

**лепшы бамбардзір** (15 галоў) Мікалай Хадасевіч ("Беразінскае");

**самы перспектыўны** Арцём Ермакоў ("ПТВ-42");

**лепшы гол** Ігар Сачук (ВРУП "Беразінскае");

**лепшы ветэран** Леанід Лявончык ("Гарадзілаўская СШ");

**прыз жаночых сімпатый** Раман Новік ("Гарадзілава-Кастрычнік").

■ ДЗЮДО

# Серабро Андрэя Кіпцэвіча

**Другое месца на першынстве Еўропы па дзюдо сярод юнакоў да 17 гадоў заваяваў смаргонец Андрэй Кіпцэвіч.**

Праўда, ужо два гады, як Андрэй вучыцца ў вучылішчы алімпійскага рэзерву ў Гродне і з'яўляецца выхаванцам досыць вядомага ў свеце дзюдо заслужанага трэнера Уладзіміра Жукоўскага.

Аднак і свайго першага смаргонскага трэнера **Аляксандра Вахавяка** Андрэй не забывае, як і спартыўную школу, што дала яму пуцёўку ў жыццё.

Вось і пра перамогу на еўрапейскіх спаборніцтвах, што праходзілі напрыканцы чэрвеня ў Венгрыі, першым даведаўся Аляксандр Вахавяк. А прыехаўшы ў Смаргонь, сярэбраны прызёр не мог не прыйсці з медалём і кубкам у барцоўскую залу, дзе яго з нецярпеннем чакалі юныя выхаванцы-дзюдаісты.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

**Табло**

ФУТБОЛ, СТАТЫСТЫКА, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# "Маладзечна-2000" у першым крузе

Рэйтынг гульцоў па версіі "РГ": Сарасек – прызнаны лепшым у складзе "Маладзечна-2000" 4 разы; Міхалёў – 3; Акуліч, Макрыцкі, Мігас, Рапецкі, Рубацкі – па 2; Дараховіч, Дрозд, Сідарэнка, Сцепановіч – па 1.

**Галы:** Сідарэнка – 3; Міхалёў, Сарасек – па 2; Акуліч, Бычкоўскі, Дараховіч, Макрыцкі, Рапецкі, Сысой, Тартоўскі, Вавілаў (Славія, аўтагол) – па 1.

**Матчы:** Акуліч, Макрыцкі, Мігас, Сарасек – па 13; Бычкоўскі, Міхалёў, Рапецкі – па 12; Муравейнікаў, Тартоўскі – па 11; Сысой – 10; Дараховіч, Дрозд – па 9; Рубацкі – 8, прапусціў 16 галоў (-16), Сідарэнка – 8; Сцепановіч – 6 (-14); Азаронак, Лявончык – па 5; Смірноў – 4; Грыхуцік, Карпіленка, Млечка – па 2.

| | Пм | Н | Пж | Р/М | А |
|---|---|---|---|---|---|
| 1.БАТЭ (Барысаў) | 9 | 2 | 2 | 24-7 | 29 |
| 2.Нёман (Гродна) | 9 | 2 | 2 | 21-10 | 29 |
| 3.Тарпеда-МАЗ (Мінск) | 8 | 3 | 2 | 14-7 | 27 |
| 4.ФК "Гомель" | 8 | 2 | 3 | 23-11 | 26 |
| 5.Дынама (Мінск) | 7 | 1 | 5 | 25-15 | 22 |
| 6.Днепр-Тр. (Магілёў) | 6 | 3 | 4 | 18-14 | 21 |
| 7.Белшына (Бабруйск) | 6 | 2 | 5 | 19-12 | 20 |
| 8.Тарпеда (Жодзіна) | 6 | 2 | 5 | 16-13 | 20 |
| 9.Шахцёр (Салігорск) | 5 | 4 | 4 | 16-12 | 19 |
| 10.Дынама (Брэст) | 4 | 4 | 5 | 12-12 | 16 |
| 11.Зорка-ВА-БДУ (Мн) | 2 | 3 | 8 | 11-22 | 9 |
| **12.Маладзечна-2000** | **2** | **1** | **10** | **15-30** | **7** |
| 13.Лакаматыў-96 (Віц.) | 2 | 0 | 11 | 7-33 | 6 |
| 14.Славія (Мазыр) | 1 | 3 | 9 | 11-34 | 6 |

Заўвагі: Пм – перамогі, Н – нічыі, Пж – паражэнні, Р/М – розніца забітых і прапушчаных мячоў, А – ачкі.

**Бамбардзіры:** Стрыпейкіс (Белшына) – 11; Падрэз (Шахцёр) – 7 галоў.

■ ФУТБОЛ, СТАТЫСТЫКА, ПЕРШАЯ ЛІГА

# «Смаргонь» забіла менш за іншых

Зараз у смаргонцаў адпачынак да 22 ліпеня. Магчыма, у міжкругавай паузе каманду ўзмацняць некалькі гульцоў.

**Галы:** Шаблінскі – 3; Кошаль – 2; Дукса, Іваноў, Шамшорык – па 1.

**Матчы:** Давідовіч, Дукса, Кошаль, Курак, Шамшорык – па 15; Іваноў, Шпакоўскі – па 14; Селіванаў – 13; Стэльмах, Шаблінскі – па 12; Максіменка, Сілін – па 11; Шляхавой – 10 (-12); Байда – 7; Карабінскі – 6; Чарнуха, Шэўчык – па 5; Шэлест – 5 (-4); Д. Ваўчок – 3; Дзігілевіч – 1.

| | Пм | Н | Пж | Р/М | А |
|---|---|---|---|---|---|
| 1.Дарыда (Мінск) | 13 | 2 | 0 | 47-11 | 41 |
| 2.Лакаматыў (Мінск) | 10 | 3 | 2 | 28-6 | 33 |
| 3.Нафтан (Наваполацк) | 9 | 5 | 1 | 32-13 | 32 |
| 4.Ведрыч-97 (Рэчыца) | 10 | 1 | 4 | 31-14 | 31 |
| 5.Граніт (Мікашэвічы) | 8 | 3 | 4 | 17-14 | 27 |
| 6.ЗЛіН (Гомель) | 8 | 1 | 6 | 21-18 | 25 |
| 7.ФК "Ліда" | 6 | 3 | 6 | 24-23 | 21 |
| 8.Камунальнік (Слонім) | 6 | 3 | 6 | 16-25 | 21 |
| 9.Дынама-Юні (Мінск) | 5 | 1 | 9 | 22-25 | 16 |
| 10.Нёман (Масты) | 5 | 1 | 9 | 21-32 | 16 |
| 11.Тарпеда-Кадз. (Магілёў) | 4 | 4 | 7 | 21-25 | 16 |
| 12.Хімік (Светлагорск) | 4 | 3 | 8 | 17-26 | 15 |
| 13.Днепр-ДЮСШ-1 | 3 | 6 | 6 | 15-19 | 15 |
| 14.ФК "Смаргонь" | 4 | 2 | 9 | 8-16 | 14 |
| 15.ФК "Бяроза" | 3 | 1 | 11 | 19-36 | 10 |
| 16.ФК "Асіповічы" | 1 | 3 | 11 | 10-47 | 6 |

**Бамбардзіры:** Кузьмянок (Дарыда) – 17; Юсіпец (Ведрыч-97) – 11; Вярбіцкі (Нёман) – 10; Гамановіч (Нафтан), Дым (Хімік), Дзянісюк (Лакаматыў), Калацей (Дынама-Юн), Усаў (ЗЛіН) – па 9 галоў.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Аляксандр Кісцень будзе ляпіць каманду з тых, хто застаўся

**— Вы сталі галоўным трэнерам "Маладзечна-2000". Прыміце віншаванні ад "РГ"! Але з кім давядзецца працаваць? Хто з гульцоў застаўся?**

— З 15 ліпеня мы заехалі ў Маладзечна, будзем займацца ў звычайным рэжыме, выязджаць на трэніроўкі ў Беразінскае. Засталіся ў камандзе ўсе мясцовыя хлопцы: **Макрыцкі, Дараховіч, Лявончык, Дрозд, Смірноў, Грыхуцік**, будзем далучаць некаторых дублёраў. З Мінска са мной прыехалі **Рубацкі, Сцепановіч, Азаронак** і **Сідарэнка**. Упэўнены, што пад'едуць яшчэ як мінімум 3-4 хлопцы, напрыклад, **Тартоўскі** і **Муравейнікаў**. Праз тыдзень малюнак будзе больш ясны. Калі набяром людзей, правядзём з кім-небудзь кантрольны матч, у адваротным выпадку абмяжуемся "двухбакоўкамі".

**— 28 ліпеня важнейшая гульня з "Зоркай-ВА-БДУ".**

— Так, задача перад камандай будзе адназначная – захаваць прапіску ў вышэйшай лізе, хаця нават той склад, у якім мы праводзілі першы круг, здолеў адарвацца ад 14-га месца ўсяго на 1 ачко. Арыентацыя зараз будзе на мясцовыя кадры. Гэта значыць, што прадстаўляе сабою маладзечанскі футбол як ён ёсць, тое гледачы і ўбачаць на полі. Таму спадзяюся на падтрымку балельшчыкаў, іх добрае стаўленне да каманды.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Галоўны трэнер «Маладзечна-2000» Аляксандр Кісцень**

**— Нагадайце этапы Вашай кар'еры. Яна адметная тым, што свой развітальны матч Вы праводзілі ў складзе менавіта маладзечанскага клуба.**

— Займаўся ў дзяцінстве ў сталічнай дынамаўскай школе ў Генадзя Абрамовіча. З 1979 па 1983 гады гуляў у другой саюзнай лізе за брэсцкае "Дынама", потым пайшоў на павышэнне: сезон-83 правёў у першай лізе ў магілёўскім "Дняпры", а з 84-га стаў выступаць за мінскае "Дынама". На жаль, прыйшоў туды позна, не стаў ні чэмпіёнам, ні бронзавым прызёрам чэмпіянату СССР. Ёсць званне майстра спорту, гуляў пераважна ў цэнтры паўабароны. Перайшоў у маладзечанскі "Металург" у 1990-м.

**— Былі прычасныя да перамог 1991 года. Потым у мацнейшай лізе чэмпіянату Беларусі правялі за два гады 35 матчаў, пакуль 10 кастрычніка 1993 года ва ўзросце 36 гадоў у дамашняй сустрэчы з мінскім "Дынама" не пакінулі поле пасля першага тайма, тым самым завяршыўшы сваю кар'еру. Як складвалася трэнерская праца?**

— Дапамагаў у сталічнай "Атацы" Якаву Шапіру, нейкі час Ігару Бялову ў "Белшыне" і вось з мінулага сезона стаў працаваць з Людасам Румбуцісам у "Маладзечне-2000".

**— Ці будуць Вашы патрабаванні да гульцоў адрозніваюцца ад таго, што рабіў Румбуціс?**

— Наўрад ці. Зараз мне проста важна ведаць, з кім працаваць. Вось сяджу і прыкідваю, як выкарыстаць тых, хто ёсць у наяўнасці. Выбіраць жа не даводзіцца.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**У Мінску прайшоў чэмпіянат краіны па марафоне.**

Сярод жанчын выйграла маладзечанка **Галіна Кавалёва**, прычым з такім адрывам ад канкурэнтак, які нават прыніжае статус гэтага спаборніцтва.

**Руслан Садоўскі**, які таксама мае дачыненне да Маладзечна, першынстваваў там на дыстанцыі ў 10 км. У Стайках на рэспубліканскім мемарыяле памяці выдатнай бягунні Равілі Агледцінавай ён быў другім на 5 км.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## ■ АНЕКДОТ

Браты селі абедаць. Запускаюць лыжкі ў суп. Маўчанне.
Сярэдні: - Так - так...
Сярэдні: - Не пашкодзіць...
Старэйшы: - Ужо пабег!

## ВІНШАВАНКІ

Віншую з днём нараджэння сястрычку **Кацярыну Крукаву**. Жадаю ёй усяго найлепшага. *Сястрычка Маша.*

Віншую дарагую і любімую мамачку **Алу Макараўну Якубовіч** з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, шчасця. *Сын Юра.*

**Алу Макараўну Якубовіч** з 45-годдзем віншуюць *дачка, зяць, унук Уладзік* і жадаюць ёй здароўя, сямейнага дабрабыту.

Віншуем з юбілеем **Зою Вікенцьеўну Каваленак**! Жадаем здароўя і сямейнага дабрабыту. *Сын, муж.*

Віншуем з днём нараджэння **Антаніну Мікалаеўну Глінскую**! Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту, узаемнага кахання, аптымізму. *Калегі.*

Віншуем з днём нараджэння **Вольгу Сяргееўну Радкевіч**! Жадаем добрага здароўя, узаемнага кахання, сямейнага шчасця і ўсяго самага найлепшага. *Калегі.*

Віншуем дарагую дачушку **Алену Садоўскую** з 25-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця. *Тата, мама.*

**Алена Садоўская**! Віншуем цябе з 25-годдзем! Няхай побач будуць заўжды сям'я, здароўе і сябры. *Сябры.*

Віншуем з 25-годдзем **Алену Садоўскую**. Жадаем быць заўжды прыгожай, добрай, шчаслівай. *Сястра і яе сям'я.*

Дарагая ўнучка **Алена Садоўская**! З днём нараджэння цябе! Будзь заўжды шчаслівай і здаровай. *Бабуля, дзядуля.*

Віншуем **Ірыну Жаўтко** з Вілейкі з 20-годдзем! Жадаем здароўя, вялікага кахання, шчасця, радасці, удачы. *Мама, тата, усе родныя і знаёмыя.*

## ЗНАЁМСТВЫ

Адзінокі мужчына, 48/170/70, пазнаёміцца з добрай, прыемнай, без шкодных звычак жанчынай, узрост да 50 гадоў, з жыллём. Згодны на пераезд. Смаргонь-5, п/п КН 0476572.

Для спакойнага жыцця пазнаёмлюся з удаўцом 48-56 год, дзеці не памеха. Маладзечна –4, п/п МС 0505502.

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 29

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## Кінатэатр «Радзіма»

**22 - 28 ліпеня**

"**Відок**", Францыя, дэтэктыў — 19.00. (Славуты сышчык Відок выходзіць на след каварнага злодзея, які здзейсніў серыю загадкавых забойстваў). "**Дзе мая тачка, чувак?**", ЗША, маладзёжная камедыя – у 15.00, 17.00 і 21.00. (Неверагодныя прыгоды двух сяброў. Учарашнюю ноч яны не памятаюць, сённяшні дзень не забудуць). 19-21 ліпеня – "**Парк Юрскага перыяду-3**" ЗША, прыгоды – у 15.00, 19.00, 21.00. "**Бішунма – лятучы воін**", Карэя, баявік – у 17.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ:**

21 ліпеня – "**Новыя прыгоды Дональда Дака**" – у 13.00.

23 ліпеня – "**Каралмсціvец**" – у 11.00.

24 ліпеня – "**Чароўнае возера**" – у 13.00.

25 ліпеня – "**Наперад у былое**" – у 13.00.

28 ліпеня – самыя любімыя мультыкі – у 13.00.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

## ■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Шмат спроб было ўзяць мінулае заданне, але вымушаны канстатаваць, што правільнага адказу я так і не пачуў. Называлі часопісы "Крокодил", "Работница", "Крестьянка", "Здоровье", "Новый мир". Але ніхто не назваў часопіса "Весёлые картинки". Білеты ў кіно чакаюць сваіх уладальнікаў ў рэдакцыі да наступнага тыдня.

Наступнае заданне. У 20-я гады мінулага стагоддзя ў часопісе "Крокодил" ў карыкатуры на бязграматных экскурсаводаў пад рэпрадукцыяй адной вядомай карціны стаяў такі тэкст: "Тут, дарагія таварышы, вы бачыце драпежніка міравога імперыялізму, які пералгрыз глотку другой акуле. На змрочным фоне сярэднявечча разгортваецца перад намі яркая карціна бешанай барацьбы за новыя рынкі, новыя калоніі, з якіх былі выкачаныя каштоўнасці ў выглядзе тых дываноў, якія пакрываюць падлогу намаляванага пакоя" Пытанне: штo гэта за карціна?

Тэлефануйце 69667 ў Маладзечне (апошні тэрмін – 24 ліпеня, 15-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## ■ ІМЯНІНЫ

**19 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Лукіі, Марфы, Ульяны, Авакума, Антона, Валянціна, Васіля, Ермія, Інакенція, Лук'яна, Сідара.
**Каталіцкія**: Вадзіслава, Віцэнты.

**20 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Еўдакіі, Ефрасінні, Марыі, Акакія, Германа, Лук'яна, Фамы.
**Каталіцкія**: Гераніма, Часлава.

**21 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Пракопа, Феафіла.
**Каталіцкія**: Андрэя, Віктара, Данеля.

**22 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Марыі, Аляксандра, Кірылы, Панкрата, Фёдара.
**Каталіцкія**: Марыі.

**23 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Антона, Апалона, Данілы, Лявона, Маўрыкія.
**Каталіцкія**: Брыгіды, Апалінара.

**24 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Алены, Вольгі.
**Каталіцкія**: Крыстыны.

**25 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Марыі, Арсенія, Івана, Міхаіла, Сімона, Фёдара.
**Каталіцкія**: Віктара, Крыштафа, Якуба.

